"ІРТУТНАЕ СРЭБРА ЖЫЦЦЯ"
АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА



НОВАЯ КНІГА ПРА ПАДЗЕІ 2010-2011 ГАДОЎ
СТАР. 2

весНік ПРАВАБАРОНЧЫ

№ 5 (25) 2014.05

ГРАМАДСКІ АКТЫВІСТ
УЛАДЗІМІР ГУНДАР

ПАТРАБУЕ АД СУДА ВЯРНУЦЬ ДЗЯРЖАЎНЫ СЦЯГ УКРАІНЫ
СТАР. 3



БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

РЭПРЭСІІ

# ПРАВААБАРОНЧЫЯ ВЫНІКІ ЧС: РЭПРЭСІЎНАЯ МАШЫНА НАГАДАЛА ПРА СЯБЕ Ў ДЗЕЯННІ

Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна" Валянцін Стэфановіч у інтэрв'ю spring96.org падводзіць свае, праваабарончыя, вынікі чэмпіянату свету па хакеі, які адбываўся ў Мінску з 9 па 25 траўня.

– У Беларусі толькі скончыўся Чэмпіянат свету па хакеі. Напярэдадні яго праваабаронцы, у прыватнасці "Вясна",выказвалі апасенні, што гэтае спартыўнае мерапрыемства будзе ператворана ў ідэалагічнае і палітызаванае шоу беларускага аўтарытарнага рэжыму. Наколькі гэтыя апасенні збыліся?

– На жаль, мы можам канстатаваць, што нашыя апасенні, датычныя як ператварэння гэтага мерапрыемства ў палітызаванае шоу, так і адвольных прэвентыўных затрыманняў збыліся. Пры тым, што напачатку мы чулі заклікі ўладаў не палітызаваць гэтае мерапрыемства, не блытаць палітыку са спортам. Але тыя прэвентыўныя затрыманні напярэдадні і падчас ЧС паказалі, што ўлады самі ж палітызавалі гэтае мерапрыемства, скарыстаўшы яго ў тым ліку ў мэтах ціску, ізаляцыі актывістаў разнастайных палітычных групаў, якія, на думку ўладаў, тэарэтычна ўяўлялі пагрозу – у сэнсе правядзення нейкіх публічных мерапрыемстваў падчас ЧС.



Намеснік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч

– Трэба адзначыць, што ўсе свае абяцанні, звязаныя з правядзеннем чэмпіянату ў Мінску, гарадскія ўлады стрымалі. Аднак горад ачышчалі не толькі ад так званых асацыяльных элементаў, як гэта было заяўлена Мінгарвыканкамам. Пад гэтую мятлу трапілі агулам каля 40 актывістаў, хоць наконт іх заяваў не рабілі... Пра што, па-вашаму, могуць сведчыць такія паводзіны ўладаў?

– Па-першае, заяваў, можа быць, улады і не рабілі – але было некалькі выказванняў міністра ўнутраных справаў. Ён казаў, што ніякіх прэвентыўных затрыманняў не можа быць і іх няма, што ўсё гэта выдумкі праваабаронцаў. Але тая практыка, з якой мы сутыкнуліся, сведчыць менавіта пра кампанію ўладаў па адвольных затрыманнях грамадзянаў краіны. Прычым, мы можам тут адзначыць пэўныя тэндэнцыі. Найперш – складанне адміністрацыйных пратаколаў адразу па некалькіх складах правапарушэнняў, што давала магчымасць прыцягнуць да адказнасці на больш працяглы тэрмін – да 25 сутак арышту. Па-другое - паўторнае прыцягненне да адміністратыўнай адказнасці адразу пасля вызвалення, як гэта было са спадаром Рубцовым з Гомеля. Мы бачылі, што тыя затрыманыя (прадстаўнікі абсалютна розных палітычных плыняў – і актывісты "Маладога фронту" і анархісты, а таксама футбольныя фанаты розных клубаў) раней вызначаліся нейкімі актыўнымі дзеяннямі. Напрыклад - фанаты футбольнага клуба БАТЭ, якія падтрымлівалі ўкраінскі Майдан і прыцягваліся да адказнасці за размяшчэнне ў сацыяльных сетках адпаведнага фотаздымка. І па вялікім рахунку, мы нават сёння не ведаем маштабы ўсяго, што адбывалася ў краіне падчас правядзення чэмпіянату. Бо людзі, якія выходзілі з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў, казалі, што там настолькі шмат затрыманых, што іх даводзілася вывозіць у Жодзіна [у ізалятар часовага ўтрымання пры турме № 8 г. Жодзіна – рэд.], як гэта было падчас палітычных кампаній 2006-га года і пасля 19 снежня 2010-га.

Сапраўды, мы назіралі, як і абяцаў Мінгарвыканкам, ачыстку горада ад "асацыяльных элементаў" – былі ізаляваныя і асобы без пэўнага месца жыхарства, і прастытуткі, а хворыя на алкагалізм людзі накіроўваліся ў лячэбна-працоўныя прафілакторыі, дзе іх на працягу года-паўтары будуць "лекаваць" ад алкагалізму з дапамогай прымусовай працы... Паўтаруся, якія ўсё гэта насіла памеры – мы, напэўна, і не даведаемся. І тое, што аб'ядноўвала ўсе названыя катэгорыі грамадзянаў – адсутнасць правасуддзя. Улады занадта не абцяжарвалі сябе пошукамі доказаў вінаватасці гэтых людзей і вельмі часта ізалявалі іх безадносна да правапарушэнняў з іх боку – толькі таму што праводзілася адпаведная кампанія. Гэта наўпрост паказвае, што створаная ў Беларусі сістэма прыводзіць да такіх сістэматычных і сістэмных парушэнняў правоў чалавека. Рэпрэсіўная машына запускаецца, з пэўнай нагоды і пры адпаведнай палітычнай кан'юнктуры ўладаў, і працуе бездакорна, выконваючы пастаўленыя задачы.

То бок, усё гэта сведчыць пра тое, што ўлады могуць запускаць сваю рэпрэсіўную машыну, калі ім гэта патрэбна і пры любой такога кшталту нагодзе.

*Працяг на ст.4*

## Еўрасаюз асуджае адвольныя затрыманні і арышты актывістаў у Беларусі

Брусель, 16 траўня 2014 г.




Заява Еўрапейскай службы знешнепалітычнай дзейнасці па адвольных затрыманнях больш чым 30 грамадзянскіх і палітычных актывістаў у Беларусі

Мы занепакоеныя праследам, адвольнымі арыштамі і зняволеннем некалькіх дзясяткаў прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і апазіцыйных арганізацый напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусі. Мы асуджаем прымяненне беларускімі ўладамі адміністратыўных арыштаў у якасці інструмента, накіраванага на стварэнне ціску, страху і няўпэўненасці сярод маладога пакалення Беларусі.

Мы заклікаем улады Беларусі неадкладна спыніць гэтыя дзеянні і вызваліць усіх асобаў, несправядліва затрыманых, зняўшы ўсе абвінавачванні супраць іх. Мы таксама паўтараем наш заклік пра неадкладнае і безумоўнае вызваленне і рэабілітацыю ўсіх палітычных зняволеных.

Гатоўнасць ЕС да далейшага развіцця адносінаў з Беларуссю па-ранейшаму залежыць ад канкрэтных крокаў Беларусі ў кірунку дэмакратыі, правоў чалавека і вяршэнства закона.

spring96.org

## Экс-кандыдат дамагаецца прыцягнення да адказнасці старшыні камісіі




Экс-кандыдат у дэпутаты Брэсцкага абласнога савета дэпутатаў Мікалай Чарнавус 24 траўня накіраваў скаргу ў абласны суд на рашэнні Баранавіцкага гарадскога суда ад 21.05., які лічыць справу Чарнавуса непадлеглай судам, і Брэсцкага абласнога суда ад 5.05.2014 г. Ён адзначае, што ўжо прайшло 18 дзён пасля адхілення яго скаргі абласным судом, але ён так і не атрымаў і рашэння абласнога суда, і матывіровачнай яго часткі. М. Чарнавус просіць старшыню абласнога суда адмяніць рашэнні судоў першай і другой інстанцый і прыцягнуць да адказнасці былую старшыню камісіі Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі № 21 Ларысу Антонаву за парушэнне выбарчага заканадаўства і перадузятаць ў адносінах да незалежных кандыдатаў у дэпутаты.

Мікалай Чарнавус лічыць, што старшыня акруговай камісіі №21 Л. Антонава мусіць панесці пакаранне, бо не дазволіла яму выступіць перад выбаршчыкамі па Баранавіцкаму радыё.

– Лічу, што Баранавіцкі гарадскі і Брэсцкі абласны суды проста ўхіліліся ад разгляду скаргі па-сутнасці. Канстытуцыя гарантуе нам права звяртацца і быць абароненымі ў судзе, калі правы парушаюцца.

У выпадку адмоўнага рашэння старшыні абласнога суда Мікалай Чарнавус будзе дамагацца справядлівасці ў вышэйшых судовых інстанцыях Беларусі.

Глеб Лушынскі

ФЕМІДА

# СУД БАРАНАВІЦКАГА РАЁНА І ГОРАДА БАРАНАВІЧЫ ПАСТАНАВІЎ ЗНІШЧЫЦЬ УКРАІНСКІ СЦЯГ

Баранавіцкі суд пастанавіў знішчыць дзяржаўны сцяг Украіны. Гэта стала вядома з атрыманага грамадскім актывістам Уладзімірам Гундарам 15 траўня копіі пастановы ад 08.05. падпісанай намеснікам старшыні суда Васілём Петрывам. У ёй гаворыцца, што пастанова суда ад 21 сакавіка (суддзя С. Півавар) па адміністрацыйнай справе Уладзіміра Гундара, які арганізаваў 4 сакавіка ў цэнтры Баранавічаў адзіночны пікет супраць вайны Расіі з Украінай, уступіла ў сілу, "рэчавыя доказы: нацыянальны сцяг Украіны і плакат з надпісам "Пуцінскія банд-агрэсары – гець з Украіны! Прэч з Беларусі!" – знішчыць".

На пікеце, накрыўшы плечы блакітна-жоўтым сцягам Украіны і разгарнуўшы каляровы плакат, Уладзімір Гундар прастаяў у цэнтры Баранавічаў 20 хвілін. Суд прызнаў яго вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 арт. 23.34 КаАП РБ – арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства і прысудзіў адміністрацыйны штраф у памеры 15 базавых велічынь. Суддзя Станіслаў Півавар адмовіўся вярнуць украінскі сцяг і плакат У. Гундару, паведаміўшы, што гэтыя рэчавыя доказы па закону павінны застацца ў адміністрацыйнай справе.

Цяпер суд вырашыў рэчавыя доказы знішчыць. Пастанова суда абскарджанню і апратэставанню не падлягае.


ПОСТАНОВЛЕНИЕ

08 мая 2014 года г. Барановичи

Судья суда Барановичского района и г. Барановичи Пивовар С.С. рассмотрев материалы дела об административном правонарушении в отношении Гундаря Владимира Тадеушевича по ст. 23.34 ч. 1 КоАП,

УСТАНОВИЛ:

Постановлением судьи суда Барановичского района и г. Барановичи от 21 марта 2014 г. Гундарь В.Т. на основании ст. 23.34 ч. 1 КоАП был подвергнут административному взысканию в виде штрафа в доход государства в размере 15 базовых величин в сумме 1 950 000 рублей, а вещественные доказательства постановлено хранить до вступления постановления в законную силу.

Заведующая канцелярией суда просит разрешить дальнейшую судьбу вещественных доказательств.

Из материалов дела видно, что постановление судьи вступило в законную силу 01 апреля 2014 г.

Суд приходит к выводу, что данные вещественные доказательства необходимо уничтожить.

На основании изложенного и руководствуясь ст. 6.9 ПИКоАП,

ПОСТАНОВИЛ:

Вещественные доказательства: национальный флаг Украины и плакат с надписью «Пуцінскія банд – агрэсары – геть зУкраины! прэч з Беларусі!» - уничтожить.

Постановление обжалованию и опротестованию не подлежит.

Судья:

Суд Барановичского района и города Барановичи
КОПИЯ ВЕРНА
20__ г.

– Падчас святкавання ў Баранавічах 90-х угодкаў БНР 25 сакавіка 2008 года у нас міліцыя канфіскавала пяць бел-чырвона-белых сцягоў, але пасля суда іх вярнулі. Вельмі сорамна за такое рашэнне суда, які зняважыў дзяржаўныя сімвалы братняй Украіны, – пракаментаваў Уладзімір Гундар.

Вітусь Свабодскі

ПРАВААБАРОНЦЫ

# ВЫЙШЛА КНІГА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА "ІРТУТНАЕ СРЭБРА ЖЫЦЬЦЯ" ПРА ПАДЗЕІ 2010-2011 ГАДОЎ

Кніга напісана Алесем Бяляцкім падчас ягонага зняволення: з верасня 2012 па чэрвень 2013 года. Выданне ўключае ў сябе лісты з успамінамі, рэфлексіямі і развагамі, тут апісаны і звычайныя працоўныя будні, падзеі, што папярэднічалі арышту праваабаронцы, міжнародныя паездкі. Назва кнігі даволі вобразная, Алесь імкнуўся праз яе перадаць зменлівасць і небяспечную прыцягальнасць, пэўную халоднасць жыцця.

"Пісаць пра падзеі 2010-2011 гадоў і лёгка, бо яны, здаецца, добра-такі адбіліся ў маёй памяці, і цяжка, бо ўсё ж час няўмольна зьядае сьвежыню эмоцыяў, сотні і тысячы дробных дэталяў, якія ствараюць шматфарбную карціну жыцьця. Набягаюць новыя падзеі, новыя ўражаньні, якія адцясняюць і заціраюць старыя", – напісаў Алесь Бяляцкі ў адным з лістоў.

Укладальніца выдання праваабаронца Алена Лапцёнак у прадмове да кнігі адзначае: "Прайшло ўжо больш за два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага, і палову вызначанага судом тэрміну зьняволеньня ён ужо адбыў. Але нават гэты час у пэўнай ступені не аказаўся для яго страчаным дарма, і, як чалавек з моцным унутраным стрыжнем, Алесь здолеў скарыстаць яго і разбавіць аднастайнасць турэмнага побыту творчымі задумамі і іх плённай рэалізацыяй".




Лісты-нататкі з гэтай кнігі з 4 жніўня 2013 года размяшчаліся ў асабістым блогу Алеся Бяляцкага на сайце «Беларускі партызан».

Нагадем, што гэта ўжо другая кніга Алеся Бяляцкага, якая выйшла за час ягонага зняволення. Першая – "Асьвечаныя Беларушчынай", зараз яшчэ рыхтуецца да выдання зборнік ягоных публіцыстычных твораў "Халоднае крыло Радзімы".

Бліжэйшым часам Праваабарончы цэнтр "Вясна" запросіць усіх жадаючых на прэзентацыю кнігі, дзе яе магчыма будзе атрымаць.

spring96.org

ГРАМАДСТВА

# ГРАМАДСКІ АКТЫВІСТ ПАТРАБУЕ АД СУДА ВЯРНУЦЬ ЯМУ ЎКРАІНСКІ СЦЯГ

Уладзімір Гундар, аганізатар пікета ў цэнтры Баранавічаў супраць вайны Расіі з Украінай, 16 траўня накіраваў заяву на імя старшыні суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Мікалая Кміты з просьбай вярнуць яму дзяржаўны сцяг Украіны.



Уладзімір Гундар у цэнтры Баранавічаў падчас адзіночнага пікета салідарнасці з украінскім народам

Яшчэ 21 сакавіка суддзя Станіслаў Півавар прызнаў Уладзіміра Гундара вінаватым у правядзенні несанкцыянаванага пікета супраць агрэсіі Расіі ў адносінах да братняй Украіны і прысудзіў адміністрацыйны штраф у памеры 15 базавых велічынь. Суддзя адмовіўся вярнуць спадару Гундару ўкраінскі сцяг і плакат “Пуцінскія банд-агрэсары — геть з Украіны, прэч з Беларусі”, паведаміўшы, што гэтыя рэчавыя доказы па закону павінны застацца ў яго адміністрацыйнай справе.

Але 15 траўня Уладзімір Гундар атрымаў копію пастановы гарадского суда ад 8 траўня, у якой паведамлялася, што Баранавіцкі суд пастанавіў знішчыць дзяржаўны ўкраінскі сцяг і плакат.

– У сваёй заяве я напісаў, што грамадзяне нашага горада абураныя варварскім рашэннем гарадскога суда аб знішчэнні дзяржаўнага сімвала братняй нам Украіны. Такія дзеянні суда разбураюць цывілізаваныя міждзяржаўныя і міжнацыянальныя зносіны Рэспублікі Беларусь з суседнімі дзяржавамі. Таму ў гэтай заяве я патрабую вярнуць мне дзяржаўны сцяг Украіны, – патлумачыў Уладзімір Гундар.

Заяву Уладзіміра Гундара аб вяртанні дзяржаўнага сцяга Украіны яго законнаму ўладальніку падпісалі актывісты грамадскіх арганізацый і палітычных партый Анжаліка Камбалава, Вячаслаў Болбат, Віктар Сырыца, Мікалай Чарнавус, Аляксандр Вайцешык і Сяргей Гоўша.

Вітусь Свабодскі

ПРАВААБАРОНЦЫ

# CIVIL RIGHTS DEFENDERS НАГАДАЕ ПРА 33 МЕСЯЦЫ ЗНЯВОЛЕННЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

Кіраўнік шведскай праваабарончай арганізацыі Civil Rights Defenders Роберт Хорд, які збіраецца на Чэмпіянат свету па хакеі ў Менск, падрыхтаваў адмысловы хакейны швэдар з надпісам “Bialiatski” і з вялікімі літарамі: 33. Менавіта столькі месяцаў за кратамі правёў яго калега-праваабаронца, старшыня Праваабарончага цэнтру “Вясна” палітычны вязень Алесь Бяляцкі.

Роберт Хорд збіраецца падараваць гэты сімвалічны швэдар старшыні Шведскай федэрацыі хакея Крыстэру Энглунду.

spring96.org




Civil Rights Defenders

## Праабаронца Сяргей Гоўша адстойвае свае права на карыстанне беларускай мовай у банкаўскай сферы

Праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў ліст з ААТ “Ашчадны банк “Беларусбанк”, філіял № 802, за подпісам дырэктара А.Ф. Навіцкага, у якім паведамляецца, што банк разгледзеў яго зварот па пытанні плацяжоў і выкарыстання беларускай мовы пры абслугоўванні кліентаў.

Банкаўскі чыноўнік падрабязна распавёў С. Гоўшы пра працу “Беларусбанка” аб развіцці і ўдасканаленні адзінай разліковай і інфармацыйнай прасторы (АРІП) для аплаты паслуг. А што да беларускай мовы пры абслугоўванні кліентаў, то сп. Навіцкі паведаміў, што, “...кіруючыся нарматыўна-прававой базай Рэспублікі Беларусь, банк мае права пры аказанні паслуг насельніцтву выкарыстоўваць адну з дзяржаўных моў РБ — беларускую ці рускую”.

– Але артыкул 50 Канстытуцыі гарантуе, што кожны грамадзянін мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. У рэальным жыцці ўсё зусім інакш. Я не магу адправіць ці надрукаваць якую-небудзь банкаўскую паперку на беларускай мове, бо супрацоўнікі банка скардзяцца на нястачу беларускага шрыфта ў кампутарах. Аб гэтым я і пісаў кіраўніцтву банка і спадзяваўся, што яго ім установяць, і можна будзе свабодна карыстацца роднай мовай для аплаты паслуг. Але замест канкрэтнай працы па пашырэнні беларускай мовы ў банкаўскай сферы мне даслалі адпіску, – паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Грамадскі актывіст будзе адстойваць свае права на выкарыстанне роднай мовай і далей.

Сяргей Законнікаў

## Статкевіча-старэйшага павіншавалі з Днём Перамогі

Баранавіцкія актывісты наведалі і павіншавалі Статкевіча-старэйшага з Днём Перамогі. Віктар Паўлавіч гасцінна сустрэў гасцей і, як заўжды, за кубачкам гарбаты гаварылі пра лёсы палітвязняў, цяперашнія затрыманні і асуджэнні ў Мінску актывістаў, пра сацыяльна-эканамічнае становішча Беларусі, пра Украіну. Чыталі лісты ад сына Мікалая да бацькі і грамадскіх актывістаў Баранавічаў. Успомнілася, як немец забіў яго бацьку, як у гады вайны сяляне вадзілі на ноч свае каровы ў суседнюю вёску Рачкавічы да паліцаяў, каб зберагчы сваю хатнюю жывёлу ад партызанскіх канфіскацый, як партызаны ўсё ж такі забралі каня...

## Запрашэнне на свята "Баранавіцкая вясна-2014" – строга абавязковае

Сярэднія навучальныя ўстановы горада Баранавічы атрымалі лісты за подпісам начальніка аддзела адукацыі гарадскога выканаўчага камітэта А. Салавей. У іх паведамляецца, што 23 траўня адбудзецца ўрачыстая цырымонія адкрыцця свята "Баранавіцкая вясна – 2014". На адкрыццё галоўнага свята горада запрашаюцца кіраўнік, намеснікі кіраўніка, старшыні прафкама і ГА "Белая Русь", педагог сацыяльны і педагог-арганізатар. Яўка вышэйназваных асобаў ў 18 гадзін 23 траўня строга абавязковая.

Вось так свята: запрашэнне – строга абавязковае!

Глеб Лушынскі

# ПРАВААБАРОНЧЫЯ ВЫНІКІ ЧС: РЭПРЭСІЎНАЯ МАШЫНА НАГАДАЛА ПРА СЯБЕ Ў ДЗЕЯННІ

*Працяг, пачатак на ст. 1*

– Як ацэньваеце рэакцыю міжнароднай супольнасці на гэтыя рэпрэсіі?

– Мяркуючы па тых візітах журналістаў, якія прыходзілі ў "Вясну" падчас правядзення чэмпіянату, Беларусь знаходзілася ў полі ўвагі міжнароднай супольнасці. Я мяркую, даволі шмат будзе рэпартажаў не толькі пра чэмпіянат, але і пра тое, на якім фоне ён адбываўся. У нас былі журналісты з розных еўрапейскіх краінаў – Нямеччыны, Фінляндыі, Чэхіі, прадстаўнікі некалькіх СМІ са Швецыі, якія сустракаліся і з роднымі палітвязняў, бо падчас чэмпіянату ў Беларусі за кратамі па палітычных матывах заставалася восем чалавек. І некаторыя спадзяванні міжнароднай супольнасці на іх вызваленне перад ЧС не спраўдзіліся. Шчыра кажучы, мы такіх спадзяванняў і не мелі, бо, як нам падаецца, значэнне гэтага спартыўнага мерапрыемства для беларускіх уладаў было занадта перабольшанае. З аднаго боку, яны хацелі правесці ЧС, але гэта не тое мерапрыемства, якое магло б сапраўды падштурхнуць іх да вызвалення палітвязняў. А па-другое, дзеля чаго ім было ісці на такія крокі, калі чэмпіянат у любым разе адбываўся б у Беларусі...

Што тычыцца заяваў, то Еўразвяз выступіў з асуджэннем усіх адвольных затрыманняў, якія адбываліся напярэдадні і падчас ЧС. Ну і канешне, была рэакцыя з боку шэрагу міжнародных праваабарончых арганізацый. Са свайго боку, мы інфармавалі Групу па адвольных затрыманнях ААН, і мяркую, што ў дакладзе спецдакладчыка па Беларусі гэтая інфармацыя будзе адлюстраваная. Таксама міжнародная супольнасць асудзіла прывядзенне ў выкананне двух апошніх смяротных прысудаў у Беларусі напярэдадні чэмпіянату.

– Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакея Рэнэ Фазэль неаднаразова падвяргаўся крытыцы за тое, што адмаўляў сувязь паміж узмацненнем ціску на апазіцыю і правядзеннем чэмпіянату. Знаходзячыся ў Мінску, ён казаў, что бачыць прыгожы чысты горад, свята і хакей...

– Кожны бачыць тое, што ён бачыць, ці тое, што ён хоча бачыць. Мы ў сваёй працы бачым іншы бок медаля. Мы бачым гэтых людзей, якія вымушаныя былі правесці за кратамі 25 сутак, іх сваякоў. Да прыкладу, Насту Дашкевіч, якая зараз цяжарная і мусіла 25 сутак нервавацца, чакаць Змітра, які правёў іх пад арыштам не зразумела за што. Мы бачым так званых "асацыяльных элементаў", якія былі лішнія на гэтым свяце жыцця, іх ніхто не хацеў бачыць на вуліцах гэтага горада, іх ізалявалі і зрабілі выгляд, што іх тут няма. Такім чынам яны вырашылі паказаць адсутнасць праблемы алкагалізму ў краіне? Гэтая праблема ёсць і пра яе ўсім вядома. Самі сабой напрошваюцца аналогіі з алімпіядай 1980 года ў Маскве, калі таксама людзей, так званых асацыяльных, "тунеядцев", высылалі на 101-ы кіламетр, вычышчаючы сталіцу. Ды і задачы перад тагачасным кіраўніцтвам СССР стаялі збольшага такія ж – забяспечыць правядзенне алімпіяды ва ўмовах несвабоднай краіны, паказаць усяму свету як "хорошо в стране советской жить"...

А вось старшыня Міжнароднай федэрацыі хакея хацеў бачыць свята, хакей і шчаслівыя твары... Але адно не адмаўляе наяўнасці другога. І адно і другое – нашая рэчаіснасць. І для нас, з аднаго боку, заўсёды праблемна казаць пра баланс – непалітызацыю спорта – пры правядзенні маштабных мерапрыемстваў у рэпрэсіўных дзяржавах. Але мне падаецца, што калі правядзенне такіх мерапрыемстваў прыводзіць да сістэмных парушэнняў правоў чалавека, то я б, напрыклад, устрымаўся ад іх правядзення. Ну, а хто вінаваты ў палітызацыі гэтага спартыўнага мерапрыемства – гадаць не выпадае. Усю адказнасць за гэта нясуць улады. Улады, якія былі арганізатарамі гэтага чэмпіянату. Улады, якія праводзілі рэпрэсіі супраць непажаданых грамадзянаў дзеля стварэння ілюзорнай карцінкі чыстага горада. І мне падаецца, што гэта добрая нагода для кіраўнікоў міжнародных спартыўных арганізацый задумацца пра гэты баланс.

– Прагназуеце спад рэпрэсій пасля чэмпіянату ці лета мусіць быць "гарачым"?

– Пасля чэмпіянату, мяркую, узровень рэпрэсій спадзе, але я не маю на ўвазе, што сітуацыя зменіцца карэнным чынам, адбудуцца нейкія сістэмныя змены. Безумоўна, не. Магчыма, варта чакаць адвольных затрыманняў перад 3 ліпеня [афіцыйны дзень незалежнасці ў Беларусі – рэд.]. Але з нагоды сітуацыі, якую мы назіралі падчас чэмпіянату, у галаву адразу прыходзіць кантэкст 2015 года – правядзенне прэзідэнцкіх выбараў. І не трэба быць аналітыкам, каб зразумець, што звычайна буйныя палітычныя кампаніі ў краіне суправаджаюцца ростам рэпрэсій. І дадзеная практыка запуску рэпрэсіўнай машыны паказвае, што няма ніякіх гарантыяў, што ўсё не паўторыцца. У прынцыпе, мы як праваабаронцы рыхтуемся да горшага, да таго, што ў 2015 годзе сутыкнемся з ростам рэпрэсій і з больш жорсткімі формамі пераследу. Няма падставаў лічыць, што выбары пройдуць у нейкім іншым ключы.

spring96.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ